Грамадскае незалежнае выданне, выходзіць са студзеня 1997 года

# Газета для вас

20 чэрвеня 1998 года
СУБОТА
№ 47(127)
Наш індэкс 63834

Цана па падпісцы — 1000 руб.
Цана ў розніцу — 1500 руб.

ІВАЦЭВІЧЫ -БАРАНАВІЧЫ -БЯРОЗА

## НАВІНЫ: ЧАС МЯСЦОВЫ

БЯРОЗА

### Чэрвень. Навальніцы...

16 чэрвеня амаль уся тэрыторыя раёна трапіла пад навальніцу. Вялікі дождж суправаджаўся градам велічынёю з галубінае яйка, але з вострымі краямі. У калгасе "Земляроб" знішчана 20 гектараў бульбы, якая належала калгаснікам. На сотках не засталося ніводнай сцяблінкі — бацвінне бульбы зрэзана нібы касою. Такі ж лёс у гэтай гаспадаркі спасціг і 40 гектараў цукровых буракоў, пасаджаных па шведскай тэхналогіі (без ручной працы), а таксама 60 гектараў кукурузы ў калгасе "Вінец". Усяго ж па раёне пашкоджана навальніцай і дажджом 1,7 тысячы гектараў пасеваў ячменю, аўсу, азімых зернявых, пасевы якіх палеглі, прыбіты да зямлі.

На шчасце, людскіх ахвяраў няма. У вёсцы Паўлавічы ад удару маланкі згарэў дах хлява.

У Бярозе электраразрадам аглушыла жанчыну, якая ў час навальніцы гаварыла па тэлефоне...

### Газавая ліхаманка

З-за скарачэння Расіяй падачы газу на Беларусь на 40 працэнтаў на 10 дзён спыніўся завод мінералаватных вырабаў — структурнае падраздзяленне камбіната будаўнічых матэрыялаў. Завод амаль месяц прастаяў у маі — і вось цяпер зноў вымушаны прастой.

Стаіць без працы і цэх па вытворчасці вапны камбіната сілікатных вырабаў, які, як і камбінат будаўнічых матэрыялаў, мае запазычанасць за газ.

### Ужо колькі раз папярэджвалі...

насельніцтва, што паддавацца пэўным асобам і станавіцца ахвярай іх жаданняў — дарэмная і небяспечная справа. Але то там, то тут людзі, нібы пад гіпнозам, аддаюць сябе ў рукі махляроў. Так здарылася нядаўна ў г. Белаазёрску. Дзве цыганкі падышлі да 17-гадовай дзяўчыны з прапановай паваражыць на яйку. Варажба скончылася тым, што завушніцы, залатыя кольцы і 200 тысяч рублёў дзяўчыны засталіся цыганкам.

Усё ж іх затрымалі ў Брэсце. Дзяўчына апазнала махлярак. Заведзена крымінальная справа.

## КОНКУРС 'САМАЯ ОБАЯТЕЛЬНАЯ И ПРИВЛЕКАТЕЛЬНАЯ"



*ЕЛЕНА. По гороскопу — Козерог. Очень люблю музыку и особенно песни Игоря Николаева. Люблю домашних животных. В мужчинах ценю верность, ум, честность и порядочность. Мой герой — Арнольд Шварценеггер.*

## ЗАЎТРА — ДЗЕНЬ МЕДЫЦЫНСКАГА РАБОТНІКА



*Няма, напэўна, больш паважанага ў вёсцы чалавека, чым фельчар. Ён табе і лекар, і акушэр, і аптэкар — усё ў адной асобе. Сапраўдны вясковы Айбаліт.*

*Іменна такую прафесію выбрала для сябе Ганна Уладзіміраўна Васій, якая закончыла Баранавіцкае медвучылішча з чырвоным дыпломам і цяпер загадвае Козіцкім фельчарска-акушэрскім пунктам. Не лічачыся з сіламі і часам, прыходзіць яна на дапамогу захварэўшым. Участак вялікі, пад яе апекай больш за 320 чалавек. У асноўным гэта пенсіянеры, якія моцным здароўем пахваліцца не могуць. Калі нехта з іх цяжка хварэе, яна без выкліку наведвае яго дома, выконвае неабходныя працэдуры. Вяскоўцы вельмі ўдзячны Ганне Уладзіміраўне за яе чуласць, сардэчнасць, цярплівасць.*

*НА ЗДЫМКУ: загадчыца Козіцкага ФАПа Ганна Уладзіміраўна Васій.*

*Фота А. ГАНЧУКА.*

### Час падумаць пра бульбу

Прыродныя ўмовы (вялікая вільготнасць і цяпло) у сёлетні год, як і летась, з'яўляюцца вельмі спрыяльнымі для распаўсюджвання такой хваробы раслін як фітафтора.

Як раяць спецыялісты, пачынаць змаганне з гэтай заразай трэба ўжо сёння. Хімічныя апрацоўкі звычайна пачынаюць, калі бацвінне дасягнула 15—20 сантыметраў.

Не сакрэт, што бульба займае галоўнае месца ў грамадскім сектары. І каб можна было разлічваць на добры ўраджай, паклапаціцца пра "другі хлеб" трэба ўжо зараз.

Дарэчы, у магазіне "Гаспадарчыя тавары" г. Івацэвічы па вуліцы В. Клютка нядаўна з'явіўся сродак для барацьбы з фітафторай. Цана ўмераная. Паспяшайцеся — будзеце з бульбай.

ІВАЦЭВІЧЫ

### Не супермаркет, але...

Жыхары вёскі Пагор'е ганарацца... сваім сельскім магазінам. Асартыменту тавараў у ім можа пазайздросціць які-небудзь і гарадскі магазін. Напрыклад, адных макаронных вырабаў налічваецца ў продажы больш за 10 найменняў. Ёсць некалькі відаў каўбасы, селядцоў, чаю, пячэння. У шырокім асартыменце і цукеркі, і, вядома, віна-гарэлачныя вырабы.

Акрамя гэтага, магазін гандлюе прамысловымі і гаспадарчымі таварамі. Усё, што неабходна сельскаму жыхару, тут купіць можна.

Застаецца толькі дадаць, што такі высокі ўзровень абслугоўвання сяльчан забяспечваюць прадаўцы Марыя Шавель (загадчыца магазіна), Людміла Кот і іх вучаніца Лена Харытончык.

### Глыбінцы патрэбна культура

На чарговым пасяджэнні абласнога выканаўчага камітэта былі падвергнуты сур'ёзнаму аналізу стан і меры паляпшэння культурна-масавай работы ва ўстановах культуры Івацэвіцкага раёна. Адзначалася, што ў апошнія гады культработнікі найбольш канцэнтруюць сваю ўвагу на шырокамаштабных мерапрыемствах — фестывалях, аглядах мастацкіх калектываў і г. д. У той жа час практычна забыта імі культурна-масавая работа ў глыбінцы. Ёсць вёскі, куды дзесяцігоддзямі ніхто з культпрасветработнікаў не наведваўся. Адраджэнне практыкі прасоўвання культуры ў глыбінку патрабуе канкрэтнай праграмы, і распрацаваць яе рэкамендавана якраз на базе Івацэвіцкага раёна.

### Аперацыя "Скорасць"

З 16 па 26 чэрвеня ў Івацэвіцкім раёне праходзіць аперацыя "Скорасць". Мэта яе: прыцягнуць увагу вадзіцеляў усіх катэгорый (шафёраў, матацыклістаў, трактарыстаў, веласіпедыстаў) да строгага выканання правілаў дарожнага руху. Работнікі дзяржаўтаінспекцыі, дарожна-патрульнай службы пабываюць у калектывах аўтагаспадарак, больш пільна будуць сачыць за рухам на вуліцах і дарогах раёна.

Не сакрэт, што перавышэнне скорасці вадзіцелямі з'яўляецца адной з галоўных прычын дарожна-транспартных здарэнняў. Так, па віне лíхачоў за пяць месяцаў гэтага года адбылося 20 аварый, 10 чалавек загінула, 17 — паранена. Сапраўды, ёсць над чым задумацца.

### Працуе радыёвузел

Новая паслуга ўкаранілася на Івацэвіцкім рынку: тут працуе радыёвузел. Цяпер за невялікую плату — 16 тысяч рублёў — вы можаце зрабіць аб'яву, віншаванне. Дарэчы і прадпрымальнікі, і наведвальнікі рынка нярэдка карыстаюцца гэтай паслугай.

БАРАНОВИЧИ

### "Бистро", но опасно...

Барановичская торговля с прошлого года работает без перерыва на обед в угоду покупателям. Некоторые магазины, как АТП "Север", даже обратились в исполком с просьбой удлинить рабочий день до 21 часа. А бар "Бистро", приютившийся за городом в помещении бывшей конечной автобусной остановки, попросил разрешения наоборот сократить на 1 час время работы. В "Бистро", подальше от глаз милицейских, к вечеру стекается немало посетителей с криминальным оттенком. Один из них, напившись, избил официантку. Это и послужило поводом закрытия дверей бара до наступления темноты.

### С частниками можно не считаться?

Отдел торговли Барановичского исполкома создал совет директоров предприятий торговли и общепита. Что это даст в смысле улучшения обслуживания покупателей — время покажет. Примечательно же то, что в совет не введен ни один руководитель частных предприятий. Хотя есть такие ("Пиццерия", бар "Адмирал" и другие), которые дают доход государству в виде налогов, превышающий "взносы" иных крупных госресторанов. Не любит руководство страны частных предпринимателей? Или местные власти неловко подстраиваются под его, неправильно поняв установки?

### "Кладоискатели" в горисполкоме

На очень серьезном семинаре по изучению опыта реконструкции жилищно-коммунального хозяйства в Барановичах предложение одного из ответственных работников исполкома вызвало гомерический смех в зале. Перечисляя мероприятия по улучшению работы подразделений ЖКХ, он на полном серьезе заявил, что надо "попробовать себя в кладоискательстве". Мол-де, город обновляется, сносятся старые дома, в которых нередко строители-ремонтники находят золото, деньги и пр. Да, было такое. Раз в 20 лет. Хм... Неплохой ориентир, если других идей в голове не водится.

## *Сердечно поздравляем*



*Дорогого мужа, отца и сына Василия Николаевича ГРЕЧНОГО из д. Оброво поздравляем с 50-летием. Прими от нас самые добрые и сердечные поздравления. Пусть же будет в твоей судьбе так: чем больше лет, тем больше счастья.*

*Пожелать хотим так много,*
*Что не перечесть.*
*Счастья самого большого,*
*Что на свете есть.*
*Пусть тебя не покидает*
*Радость никогда,*
*Пусть удача сопровождает*
*Все твои года.*

*Жена, сыновья, мать, тесть и теща.*





*Дорогая мамочка, любимая бабушка, заботливая сестра и тетя БУКШТА Елена Васильевна из д. Подстаринь! От всей души поздравляем тебя с 70-летием со дня рождения. Благодарим тебя за все, что ты сделала и делаешь для нас, крепкого тебе здоровья.*



*Нелегко тебе бывало в жизни,*
*Но ты нас смогла растить, любить.*
*Вопреки ненастьям ты сумела*
*Доброту и ласку сохранить.*
*За заботу, доброту — спасибо.*
*Дай Бог сил, здоровья на весь век!*
*Пусть же еще долго нас встречает*
*Дорогой, родной наш человек!*

*Дочь, зять, внуки, правнучка, сестры и их семьи.*





*От всей души поздравляем с 60-летием любимого и дорогого мужа, папочку и дедушку Анатолия Константиновича ЛЕВЧУКА из д. Приборово Ивацевичского района.*

*Ты самый лучший, самый славный*
*И бесконечно дорогой.*
*Тебе желаем много счастья,*
*Невзгоды пусть проходят стороной.*
*Пусть в жизни твоей есть потери,*
*Но внуки — надежда твоя.*
*Мы просим прощенья за наши обиды,*
*Мы в вечном долгу у тебя.*
*Низкий поклон и большое спасибо*
*За то, что ты с нами всегда.*

*Жена, дети и внуки.*



● *СТОП-КАДР*



*Яшчэ некалькі дзён падрыхтоўкі і настане апошні экзамен. А там — выпускны баль...*

*Фота А. ГАНЧУКА.*

● *РЫНКАВАЯ ПЛОШЧА*

# ШТО ПАЧЫМ?

***Цэны на рынках нашага рэгiёна ў мінулыя выхадныя (у тысячах руб. за адзін кілаграм) былі наступныя:***

| | Івацэвічы | Баранавічы | Бяроза |
|---|---|---|---|
| Свініна | 80—160 | 100—200 | 110—170 |
| Сала салёнае | 90 | 95 | 90—100 |
| Алей (1 л) | 75—85 | 65—95 | 75—90 |
| Яйкі (1 дзесятак) | 30 | 35 | 25—30 |
| Малако (3 л) | 18 | 21 | 18 |
| Тварог | 25 | 26 | 28 |
| Агуркі | 25—30 | 30—40 | 30 |
| Цыбуля рэп. | 70 | 58 | 59 |
| Капуста | 25 | 18—25 | 35 |
| Бульба | 8 | 9 | 8 |
| Трускалкі | 30 | 50—60 | 35—40 |
| Чарэшня | 80 | 90 | 80 |
| Лімоны | 70 | 75 | 70 |
| Ківі (1 шт) | 13 | 12 | 16 |
| Рыс | 31 | 30 | 30 |
| Яблыкі | 30 | 25 | 25 |
| Масла смет. | 80 | 90 | 80 |
| Апельсіны | 50 | 45 | 48 |
| Памідоры | 80 | 90 | 50—80 |
| Проса | 18,5 | 22 | 30 |
| Макар. выраб. | 23 | 21—23 | 28 |
| Грэчка | 35 | 33 | 34 |
| Цукар | 31 | 33 | 31 |
| Мука | 17,5 | 18 | 18 |
| Бананы | 76 | 75 | 77 |

**ВАЛЮТА НА «ЧОРНЫМ» РЫНКУ**

| | КУПЛЯ | ПРОДАЖ | КУПЛЯ | ПРОДАЖ | КУПЛЯ | ПРОДАЖ |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 1 долар ЗША | 56 | 58 | 56-57 | 58-59 | 56 | 58 |
| 1 дойчмарка | 27 | 28 | 26 | 28 | 27 | 28 |
| 1 рубель Расіі | 8,5 | 9 | 8,5 | 9 | 8,5 | 9 |

● *УСМІХНІЦЕСЯ*

## Спорава і спораўцы

Спораўца паставілі вартаўніком у калгасны сад. А калгаснікі, як па заданні, трасуць тыя яблыкі. Ходзіць вартаўнік-споравец па садзе і крычыць:

— Цякай, цякай, а то я іду!

Гэты споравец-вартаўнік — добрай душы чалавек.

XXX

Прайшла па Споравe пагалоска, што міліцыя будзе шукаць па хатах самагонку. І тады вяскоўцы хуценька вылілі ўсю брагу ў возера. Вада ў їм паднялася і ў возера заплыла субмарына. Так спораўцы ўпершыню ўбачылі падводную лодку.

*А. ЗАЙКА, настаўнік Запалянскай СШ Івацэвіцкага раёна.*

● *ОТ ТАМАРЫ ГЛОБА*

## ГОРОСКОП 22.06-28.06



**ОВЕН (21.3—20.04)**

Эта неделя может стать для вас переломной, с нее может начаться новый этап в вашей жизни, который принесет с собой множество забот и хлопот, требующих к себе серьезного отношения.

Не поддавайтесь лживым заверениям, не попадитесь на чужую удочку.



**ТЕЛЕЦ (21.4—20.5)**

Остерегайтесь неожиданных предложений.

Не поддавайтесь искушению получить сразу же крупные дивиденды, доходы.

Приближается полоса удачных сделок — не пропустите ее, но и не спешите. Вы должны показать себя серьезным деловым человеком.



**БЛИЗНЕЦЫ (21.5—21.6)**

Неделя благоприятна для заключения финансовых сделок, заключения контрактов, подписания договоров, перехода на новую работу. Удачны крупные покупки. Займитесь улучшением своего социального положения. Возможно участие в новом крупном деле.



**РАК (22.6—22.7)**

Вас ожидают встречи с новыми интересными людьми. Они помогут вам расширить ваш кругозор, принесут вам приятные минуты. К концу недели появится чувство усталости, и, чтобы отдохнуть, займитесь своим любимым делом или отдохните на природе.



**ЛЕВ (23.7—23.8)**

Скорее удача, чем напряженная работа, принесет вам прибыль или успех в делах. Неделя благоприятна для любых финансовых дел, заключения деловых контрактов, покупок... Будьте внимательны к своему организму: не перегружайте его.



**ДЕВА (24.8—23.9)**

Популярность может стать найкратчайшим путем к финансовым успехам. Зарабатывайте капитал, используя свой шарм и контакты с нужными людьми. Отбросьте все малозначительные дела и сосредоточьтесь на главном, особенно если ваши проблемы связаны с деньгами.



**ВЕСЫ (24.9—23.10)**

На этой неделе на первом месте у вас будет работа: продвижение по службе, укрепление авторитета, новые коллеги... Во всем этом неоценимую помощь вам окажут ваш характер и ваши тайные покровители. Оградите себя от сплетен.



**СКОРПИОН (24.10—22.11)**

На этой неделе у вас могут появиться новые, неожиданные источники доходов, способные както закрыть бреши вашего бюджета. Спокойнее относитесь к своим жизненным оппонентам. Не нарывайтесь на конфликты. Выходные лучше провести в домашней обстановке.



**СТРЕЛЕЦ (23.11—21.12)**

Спешите закончить все начатые дела. Ответьте на письма, которые давно ожидают ответа, позвоните друзьям — спросите об их делах, помогите им советом и не пренебрегайте их рекомендациями. Воскресенье проведите дома: продумайте планы на ближайшее будущее.



**КОЗЕРОГ (22.12—20.1)**

Умерьте свою активность, задумайтесь над своими поступками. Вам придется на этой неделе приспосабливаться к разным людям, использовать свою интуицию и авторитет. Жизнь принесет новые сюрпризы.



**ВОДОЛЕЙ (21.1—19.2)**

К сожалению, эта неделя принесет много неприятностей из-за вашего анархического характера и из-за ваших опрометчивых поступков. Остерегайтесь необдуманных слов и дел. Ждите новых вестей.



**РЫБЫ (20.2—20.3)**

В трудную минуту друзья окажутся рядом. На этой неделе у вас могут быть некоторые осложнения со здоровьем. Оградите себя от проникновений инфекции. Желательно отказаться от принятия спиртных напитков, которые могут привести к неблагоприятным последствиям.



Сябры, знаёмыя, жыхары вуліцы Гастэлы г. Івацэвічы глыбока смуткуюць з прычыны раптоўнай смерці

**ПАЛІЕНКІ**
**Віктара Дзмітрыевіча**

і выказваюць спачуванне жонцы, сястры і сваякам нябожчыка.



Хутка споўніцца год, як няма з намі нашага любімага настаўніка

**ЁРШЫКА**
**Мікалая Сцяпанавіча.**

Нас не пакідае нясцерпны боль і смутак. Мы падзяляем вялікае гора, якое напаткала родных і блізкіх нябожчыка.

*Вучні Падстарынскай базавай школы 1950 года выпуску.*

● *КРЫМІНАЛ*

## Ішоў аўтобус у Маскву

Аўтобус з баранавіцкімі "чаўнакамі", якія ехалі ў Маскву, спыніў інспектар дарожна-патрульнай службы Талачынскага РАУС для праверкі. Закончыўшы працэдуру, гаішнік ужо накіраваўся да выхаду з салона, як здарылася непрадбачанае. Паважная дама на адным з сядзенняў нечакана ахнула, і з-пад яе па салоне пацякла вадкасць.

— З перапуду абмачылася, — пажартаваў вадзіцель аўтобуса.

Ніякіх жартаў у гэтым не заўважыў інспектар ДАІ. Ён прапанаваў пасажырцы падняцца з сядзення, пасля чаго ўсе ўбачылі поліэтыленавую каністру, з якой цурчэў спірт-рэктыфікат.

Аўтобус затрымалі. Акрамя спірту, інспектар ДАІ канфіскаваў у "чаўнакоў" 3 тоны ялавічыны, 200 кілаграмаў каўбасы, 800 тварожных сыркоў, не адну тысячу яек — усяго на 1,5 мільярда рублёў. Прадукты прызначаліся для рэалізацыі на маскоўскіх рынках.

Цяпер супрацоўнікі Баранавіцкага гардскога аддзела ўнутраных спраў высвятляюць, дзе "чаўнакі" ўзялі столькі прадуктаў.

*(Наш кар.).*

Газета выдаецца на беларускай і рускай мовах. Набіраецца ў Івацэвічах, друкуецца ў Баранавіцкай друкарні (г. Баранавічы, вул. Савецкая, 80). Выходзіць два разы на тыдзень: у сераду і суботу.

Фармат 420x300 мм. Аб'ём — 1 друк. аркуш.

Падпісана да друку 19 чэрвеня ў 9.00.

Заснавальнік: рэдакцыя "Газеты для вас"

Газета зарэгістравана ў Дзяржаўным камітэце РБ па друку. Пасведчанне № 694.

РЭДАКТАР ЛІДЗІЯ ЦАЛУЙКА.

НАШ АДРАС: рэдакцыя "Газеты для вас".
вул. Леніна, 62, 225250, г. Івацэвічы.
Тэлефон: 8 ( 245) 2-12-29.



*Тыраж 1850 .*
*Заказ 1839.*